АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

23 – 29 ЛІПЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№30 (222)

АСТРАВЕЦ

## Урон ад урагану перавысіў 40 мільярдаў

Падлічаны ўрон, які нанёс ураган, што пранёсся па паўночнай частцы Астравецкага раёна. Па вытворчым сектары калгасаў і саўгасаў ўрон склаў 37,9 мільярда, а па жыллёвым сектары — 3,6 мільярда рублёў.

Асабліва цяжка прыйшлося гаспадаркам і насельніцтву Кемялішскага, Міхалішскага, Падольскага і Спондаўскага сельсаветаў. Ад прыроднай стыхіі пацярпелі збожжасклады, сенасховішчы, збожжасушылкі, гаражы, фермы і іншыя аб'екты вытворчай і сацыяльнай сферы, жылыя дамы. А ў вёсцы Вялікія Свіранкі ўраган, апрача астатняга, часткова сарваў дах з касцёла і дома святара, поўнасцю — з клуба і бібліятэкі.

*Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.*

ВАЛОЖЫН

## "Ветерок" стаў "Расінкай"

У сераду фірменны магазін грамхарчу адкрыўся на ўездзе ў горад ля рынку. У "Расінцы" можна набыць у поўным асартыменце прадукцыю грамхарчгандлю, хлеба–булачныя вырабы. Асабліва зручна стала рыначным гандлярам. У "Расінцы" можна перакусіць: бутэрброды, піражкі, чабурэкі, смажанкі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЯДЗЕЛ

## Летнік–фестываль маладзёжных арганізацый

З 27 ліпеня па 4 жніўня ў палатачным гарадку на возеры Швакшты пройдзе маладзёжны летнік-фестываль «Круглае возера». Яго арганізатарам выступае нядаўна створаная рэспубліканская маладзёжная арганізацый «Розныя–роўныя».

Каля аднаго вогнішча ўпершыню сустрэнуцца 70 прадстаўнікоў маладзёжных арганізацый, што займаюцца праблемамі людзей з абмежаванымі магчымасцямі і работай са «здаровай» моладдзю. Гэта будуць людзі з ідэйнымі пазіцыямі, якія даволі моцна разыходзяцца. Запрошаны, у прыватнасці, прадстаўнікі арганізацыі «Малады фронт» і Беларускага саюза «афганцаў».

Праграма летніка ўключае семінары па рабоце няўрадавых арганізацый, спартыўныя спаборніцтвы, навучальныя гульні і забаўляльныя мерапрыемствы. Асноўная мэта збору супадае са статутнай мэтай «Розных-роўных» — пераадоленне стэрэатыпаў у дачыненні да людзей з абмежаванымі магчымасцямі праз стасункі і сумесную дзейнасць здаровых і інвалідаў.

Фінансавую падтрымку акцыі аказвае міжнародны Фонд Сораса. «Розныя-роўныя» плануюць зрабіць гэты фестываль штогадовым.

*Марына КУНОЎСКАЯ, БелаПАН.*

ВАЛОЖЫН

## Пайшлі ў школу гусяняты

Па 40 дзесяцісутачных гусянятаў "прапісаліся" ў гэтыя дні ў Брылькоўскай, Ракаўскай школах. Яшчэ 20 – у Вайганаўскай.

Даставілі гусянятаў з саўгаса "Стайкі" Вілейскага раёна. На набыццё маладняку, камбікорму, сеткі для агароджы аддзел адукацыі райвыканкома выдаткаваў каля 200 мільёнаў рублёў. Гадаваць іх будуць на забой для далейшага продажу. На раёне гэта першыя спробы выканаць рэкамендацыю–загад упраўлення адукацыі аблвыканкома па развядзенні ў сельскіх школах трусоў, курэй, парсюкоў, утрыманні ў гаспадарцы коней...

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

АСТРАВЕЦ

## Размова пра грамадскае

Райцэнтр наведаў старшыня Гродзенскай абласной грамадскай арганізацыі "Ратуша" **Аляксандр Мілінкевіч.**

Адбылася сустрэча з прадстаўнікамі раённага аддзялення Саюза палякаў Беларусі, Усебеларускага клуба выбаршчыкаў, дзе вялася зацікаўленая размова пра стан спраў і дзейнасць гэтых арганізацый.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МЯДЗЕЛ

## Для прыхільнікаў нетрадыцыйнай медыцыны

Некалькі дзесяткаў чалавек, якія практыкуюць ў нетрадыцыйных метадах лячэння, з"ехаліся на адно з маляўнічых азёр Мядзельшчыны, каб аздаравіцца, абмяняцца досведам і правесці сумесныя лячэбныя сеансы з хворымі.

Паводле слоў арганізатара збору з Мядзела **Мікалая Озерава**, у палатачным гарадку сабраліся паслядоўнікі ягонай сістэмы лячэння «Нікалус» з краінаў СНД, а таксама лекарытраўнікі, біяэнергетыкі і іншыя прадстаўнікі нетрадыцыйнай медыцыны, псіхолагі, спецыялісты па масажы і ўрачы, якія ў сваёй практыцы сумяшчаюць званні афіцыйнай і народнай медыцыны.

– Ні экстрасенсаў, ні ведзьмароў, – адзначыў Мікалай Озераў, – на востраве не будзе.

Лекары будуць знаходзіцца пад Мядзелам да канца ліпеня.

*Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.*

ЛЕТНІЯ ДЭФІЦЫТЫ

# З бензінам добра. Без бензіну – кепска

*Адметнасці цяперашніх летніх дзён — павышаны попыт на вадкасці «тыпу квас» і бензін.*

З першым асаблівых праблемаў не ўзнікае – выратоўваюць шматлікія мадыфікацыі газіроўкі ды мінералкі вытворчасці розных прадпрыемстваў, квас ды піва.

А вось выпуск бензіну ў краіне, нягледзячы на магутныя Наваполацкі і Мазырскі нафтаперапрацоўчыя заводы, з розных прычын не такі вялікі. Усё часцей на прыкол становяцца не толькі прыватныя легкавікі, але і прадпрыемствы ўсё часцей скардзяцца на адсутнасць паліва.

Бензін пастаянна расце ў цане. У гэтым месяцы ўжо двойчы на аўтазаправачных станцыях мяняліся цэннікі. Так было 7 ліпеня. Так атрымалася і 16–га чысла. На запраўках канцэрна "Белнафтахім" бензін А–76 цяпер каштуе 72 тысячы рублёў за літр, АІ–92 – 102 тысячы, АІ–95 – 139 тысяч рублёў, дызпаліва – 61 тысячу рублёў. Аднак нават павышэнне цэнаў не ўратоўвае. Каб заправіцца, за бензінам даводзіцца часта проста паляваць.

*Аддзел інфармацыі.*




На АЗС №2 Маладзечнанафтапрадукта учора.

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

## Калі знікае бензін, знікаюць і аўтобусы

*АСТРАВЕЦ. Пасля таго, як на мінулым тыдні з паліц мясцовых крамаў знікла піва, астраўчанаў напаткаў яшчэ адзін "дэфіцыт" — прыпынены рух практычна ўсіх маршрутных аўтобусаў.*

Толькі аўтобусы на Мінск, Гродна і станцыю Гудагай хадзілі ў звычайным рэжыме.

Прычынай стала адсутнасць бензіну не толькі ў аўтапарку №4, але і на нафтабазе ў Смаргоні, што, зразумела, негатыўна адбілася на настроі кіраўніцтва аўтапарка і пасажыраў. Апошнім дабірацца ў аддаленыя ад райцэнтра вёскі даводзілася як прыйдзецца.

Сітуацыю для "РГ" раніцой у сераду патлумачыў дырэктар аўтапарка №4 **Аляксандр Горбаль**:

– У аўторак рух аўтобусаў на Кямелішкі, Завідзіненты і шэраг іншых вёсак аднаўлены, бо з'явіўся бензін. Хаця што будзе праз некалькі дзён, сказаць не бяруся. Сітуацыя з бензінам застаецца напружанай, і калі яна будзе вырашаная, то аўтобусы пойдуць па ўсіх маршрутах.

Пакуль што пасажыры вымушаныя адчуваць дыскамфорт і загадзя вырашаць, як даехаць у тую ці іншую вёску.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



## Дызельнае паліва «новага пакалення»

*ГОМЕЛЬ. Адбылася прэзентацыя новага незвычайнага дызельнага паліва «Дзіто». Апрача журналістаў, на яе запрасілі кіраўнікоў найбуйнейшых аўтатранспартных прадпрыемстваў Гомельскай вобласці.*

Вытворца гэтага дызпаліва – маскоўская фірма «Дзіто», якая распрацавала сумесна з шэрагам расійскіх вучоных сістэму спецыяльнай ачысткі звычайнага дызпаліва. Як сведчаць вынікі даследаванняў і выпрабаванняў, дызпаліва поўнасцю ачышчаецца ад механічных прымесяў і вады, што значна паляпшае яго фізіка-хімічныя, эксплуатацыйныя і экалагічныя характарыстыкі. Такі ўзровень ачысткі дызпаліва дасягнуты ўпершыню ў свеце, а Еўропе ён будзе па сілах толькі не раней за 2015 год.

У Беларусі новае дызпаліва прадстаўляе ТАА «Белдзіто». Устаноўка па ачыстцы паліва здольная ў суткі апрацаваць да 75 тон гаручага.

*Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.*

НА РЫНКУ

## "Тузін" бяруць пад агульны дах

*МАЛАДЗЕЧНА. Тузін кіёскаў, размешчаных па вуліцы Талстога, зменяць свой знешні выгляд. Дах кіёскаў пакрыюць чарапіцай з метала–керамікі, а ніз абшыюць жалезным каркасам. Для кожнага ўладальніка кіёска гэтае задавальненне абышлося ў 28 мільёнаў рублёў.*

*Аддзел інфармацыі.*



ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

УЛАДА

## Віктар Ганчар – першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета

**Як паведамляе агенцтва БелаПАН**, на пасяджэнні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, якое прайшло 21 ліпеня ў Мінску, былы намеснік старшыні маладзечанскага гарвыканкома **Віктар Ганчар** абраны першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета. Былы маладзечанец **Станіслаў Багданкевіч** абраны членам Прэзідыума ВС.

На гэтым жа пасяджэнні абраная мандатная камісія Вярхоўнага Савета для ўдакладнення цяперашняга колькаснага складу парламента.

БАСОВІШЧА–99

## Галоўны прызёр – «Exist»

Галоўным прызёрам фестывалю маладой беларускай музыкі «Басовішча-99» стаў рок-гурт «Exist», які цяпер зможа бясплатна запісаць свой альбом у беластоцкай фірме «Герц». Па апытанні слухачоў, прыз сімпатый атрымала мінская каманда «Зьніч». Арганізатары фестывалю — Беларускае аб'яднанне студэнтаў — прысудзілі свой прыз гуртам «Deviation» з Гродна і «Алесюкі» з пасёлка Гайнаўка. У пазаконкурснай праграме выступілі вядомыя беларускія гурты «N.R.M.», «Уліс», «Новае неба» і польская каманда «Kult».

Каля пасёлка Гарадок пад адкрытым небам сабраліся некалькі тысяч чалавек, якія двое сутак жылі ў палатках. Кіраўніка грамадскага аб'яднання «Беларуская музычная альтэрнатыва» **Віталя Супрановіча** здзівіла, што, нягледзячы на шматлікасць слухачоў і мінімальную колькасць паліцыі, а таксама багацце піва (арганізатары фестывалю праводзілі піўное прадпрыемства «Дойліды»), акцыя прайшла без усялякіх эксцэсаў, на высокім арганізацыйным узроўні.

Вялікую падтрымку ў арганізацыі фестывалю аказалі Міністэрства культуры Польшчы, польскі Фонд Стэфана Баторыя і інфармацыйны цэнтр «Польшча—Беларусь».

*Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.*

АДУКАЦЫЯ

## Першы выпуск міжнароднай школы беларускай мовы і культуры

МІНСК. Адбыўся першы выпуск Міжнароднай летняй школы беларускай мовы і культуры на базе філалагічнага факультэта БДУ.

Школа пад такой назвай ужо праводзілася ва універсітэце тройчы — у 1991, 1992 і 1993 гадах, — але на той час знаёміла з традыцыямі і культурай краіны даследчыкаў і перакладчыкаў, якія валодаюць беларускай мовай, а не ставіла сваёй мэтай навучыць гаварыць па-беларуску. Аднак зараз большая частка двухтыднёвых заняткаў прысвячалася менавіта моўнай практыцы. На думку дырэктара школы, загадчыцы кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ **Лідзіі Сямешкі**, такі курс дае магчымасць навучыцца гаварыць па-беларуску на бытавым узроўні.

Большасць удзельнікаў школы — гэта студэнты і аспіранты аддзяленняў славістыкі універсітэтаў розных краін свету, якія жадаюць уключыць беларускі моўны матэрыял у кола сваёй прафесійнай падрыхтоўкі. Шэсць навучальных груп аб'ядналі грамадзян Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі, Расіі, Кыргызстана, Германіі, Аўстрыі, Чэхіі, Венгрыі, Румыніі, Славакіі, Ізраіля, Фінляндыі і ЗША. Вялікая група прыехала з Даўгаўпілса, ва ўніверсітэце якога сёлета адкрываецца спецыялізацыя па беларусістыцы. Былі сярод навучэнцаў і даследчыкі: у прыватнасці, прафесар Радэк з Польшчы, які займаецца праблемамі беларускага менталітэту, прафесар Вэкслер з Ізраіля, які напісаў першы ў свеце падручнік па беларускай гістарычнай фаналогіі.

Падчас навучання ўзніклі ідэі далейшага супрацоўніцтва. Напрыклад, польскія і чэшскія калегі маюць намер адаптаваць для сваіх краін падручнік «Гаворым па-беларуску», нядаўна выпушчаны для іншаземцаў, якія вывучаюць беларускую мову.

*Марына КУНОЎСКАЯ, БелаПАН.*

КУЛЬТУРА

## Расійскі культдэсант на рэгіён

*ВІЛЕЙКА. У сераду Вілейшчыну наведалі дырэктары некалькіх расійскіх цэнтраў народнай творчасці Масквы, Санкт—Пецярбурга, Архангельска, Чэлябінска, Хабараўска, Навасібірска, Іванава, Смаленска і Пскова.*

Былі яны ў касцёле, выставачнай зале, музеі, народным доме вёскі Талуць. У той жа дзень дэлегацыя знаёмілася з работай установу культуры ў Мядзеле і Маладзечанскім раёне.

*Аддзел інфармацыі.*



ВАЛАНЦЁРЫ

## Прыехалі папрацаваць

ВАЛОЖЫН. 15 валанцёраў, выпускнікоў Іерусалімскай гімназіі, на чале з равінам **Ісраэлем Таубам** працавалі на добраўпарадкаванні будынка былой іешывы.

Як сказаў кіраўнік валанцёраў, маштабная акцыя работ у райцэнтры і раёне прыпадзе на жнівень.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЕРКАВАННЕ

## Святочная крытыка

БУДСЛАЎ. Заўважу пра некаторыя справы, якія спадарожнічалі традыцыйнаму каталіцкаму фэсту.

Заслугоўвае добрай адзнакі работа міліцыі. Яе супрацоўнікі дапамагалі размесціць транспарт, рэгулявалі рух, аказвалі іншую дапамогу і ўсё рабілі культурна і ветліва.

Нядрэнна справіліся ў гэты дзень і работнікі гандлю. Праўда, асартымент харчовых тавараў мог быць і большы.

Сёлета ўрачыстасці прыпалі на рабочы дзень – пятніцу, таму дадатковага цягніка ў абодвух напрамках не было (як гэта бывае па выхадных днях). А шкада: і шматлікія паломнікі скарысталі б з яго, і чыгунка мела б дадатковы прыбытак.

Езджу на ўрачыстасці ў Будслаў колькі год запар і звярнуў увагу, што адна вуліца ў мястэчку заасфальтаваная, а вось тая, па якой ідуць людзі ад вакзала ў цэнтр Будслава, знаходзіцца ў жудасным стане ( у ямах і калдобінах на працягу ўсіх гадоў). Магчыма, на асфальт няма грошай. Але няўжо сельсавет і мясцовы калгас не могуць знайсці магчымасць завезці дзесятак машын звычайнага пяску і адну–дзве машыны жвіру наверх? Усё ж было б лепей.

Ды і цэнтр мястэчка можна было б крыху добраўпарадкаваць. Як–ніяк, а на ўрачыстасці ў Будслаў прыязджаюць госці нават з іншых краін.

*Пётр ЯНКОЎСКІ.*

## Вам неабходна на прыём да юрыста ...

У рамках праграмы "У падтрымку прававой асветы і юрыдычнай абароны грамадзянскіх правоў у Беларусі" пры подтрымцы Фонда Еўразія за кошт сродкаў, прадастаўленых The Charles Stewart Mott Foundation праводзіцца бясплатная юрыдычная дапамога грамадзянам па звароту з юрыдычнымі пытаннямі у розныя арганізацыі. З мэтай павышэння якасці кансультацый прапаную шэраг парадаў пры звароце да юрыста.

Прыём юрыста чымсьці нагадвае прыём ў доктара

1. Юрыст, як і доктар, не мае маральнага права разгалошваць тайну кансультацыі.

2. Пры няпоўнай або нявернай зыходнай інфармацыі, паведамленай юрысту, Вы можаце атрымаць няверны адказ або наогул супрацьлеглы.

3. Прыходзячы на прыём да юрыста, неабходна прыносіць усе наяўныя дакументы па пытанні, якое Вас цікавіць

4. Да юрыста лепш звяртацца да таго, як Вы задумалі здзейсніць якое-небудзь юрыдычнае дзеянне альбо толькі даведаліся аб парушэнні свайго права.

5. Своечасовы зварот дазволіць атрымаць законнае вырашэнне пытання, паскорыць працэс яго развязкі, і ў выніку атрымаецца танней.

6. З вырашэннем юрыдычных пытанняў таксама нельга зацягваць. Зацягванне часу са зваротам да юрыста можа прывесці да пропуску працэсуальных тэрмінаў і, адпаведна, да страты магчымасці Вам дапамагчы.

7. Для паспяховага вырашэння юрыдычнага пытання таксама неабходна выконваць усе ўказанні кансультуючага юрыста са строгім захаваннем тэрмінаў.

Дапамога грамадзянам па звароце з юрыдычнымі пытаннямі праводзіцца па рабочых днях з 16 да 20 гадзін ,акрамя панядзелка, для іншагародніх – з 10 да 14, па адрасе г. Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 10, 3 паверх. Тэлефон для даведак (01773) 6-47-91.

*Аляксей ХВОСЦІК, юрыст.*

ВЫТВОРЧАСЦЬ

## «Каб не БелТІЗ, прасілі б мы міласціну па цягніках»

*МАЛАДЗЕЧНА. Вучэбна—вытворчае аб'яднанне Беларускага таварыства інвалідаў па зроку называюць астраўком стабільнасці. І гэта сапраўды так. Штомесяц яно атрымлівае прыбытку да 12—14 мільярдаў. Доўгі час трымаецца сярод першых прадпрыемстваў горада. Ды і па рэспубліцы сярод падобных аб'яднанняў (іх 17) па прыбытку, рэнтабельнасці ў тройцы.*

– Да нас з ахвотай ідуць працаваць са "Спадарожніка", "Электрамодуля", – гаворыць намеснік дырэктара **Кансанцін Майсевіч**, – два гады таму колькасць работнікаў павялічылася на 90 чалавек, летась – яшчэ на 25. Жадаючых шмат. Аднак у першую чаргу працаўладкоўваем "сваіх" – людзей хворых.

На БелТІЗе працуе 867 чалавек, з іх больш за палову – інваліды. 210 "надомнікаў" з Ашмянаў, Астраўца, Смаргоні, Мядзела, Вілейкі, Валожына, Маладзечна.

– Я не хвалюся, але на нашу прадукцыю чарга, – расказвае дырэктар **Сяргей Мінкоўскі**. – Не хапае абаротных сродкаў, каб усіх задаволіць. Працуем, у асноўным, з больш буйнымі заводамі рэспублікі. Напрыклад, з агрэгатным у Смаргоні. А лідскі завод выкарыстоўвае 20 працэнтаў нашых дэталяў з усіх на зборцы свяцільняў.

Асноўная вытворчасць БелТІЗа – нізкавольтавая электратэхнічная аппаратура (разеткі, штэпсельныя вілкі, выключальнікі, падаўжальнікі для складанай бытавой тэхнікі). Працэнтаў 60 прадукцыі ідзе ў Расію і на Украіну.

**– Калі ўлічваць, што на прадпрыемстве працуе больш за палову людзей хворых, заканамернае пытанне: ці шмат браку?**

– У нас добра наладжаны кантроль за прадукцыяй. Спецыфіка прадпрыемства патрабуе павелічэння штату кантралёраў, – гаворыць начальнік вытворчага аддзела **Мікалай Капусцін.**

Акрамя вытворчых пытанняў, на аб'яднанні вырашаецца цэлы комплекс іншых. Трэба сачыць за добраўпарадкаваннем жылога мікраёна, каб слабавідушчым зручна было хадзіць на работу. Неабходна і будаваць для іх жыллё. Летась здалі 60–кватэрны жылы дом. Плануецца закласці яшчэ адзін. Натуральна, трымаць медперсанал – проста абавязкова.

Штодня на работу і з работы можна ездзіць бясплатна на БелТІЗаўскім аўтобусе. А раз на тыдзень – на дачныя ўчасткі ў Сечкі. Акрамя таго, прадпрыемства дапамагае свайму рэабілітацыйнаму цэнтру. Хаця цэнтр працуе на бюджэтныя грошы, аднак, пры неабходнасці, выдаткоўваюцца яму немалыя сумы. А на розныя культурныя мерапрыемствы ў рабочы час аб'яднанне адпускае работнікаў, захоўваючы іх заработкі. Ну, а пра спартыўныя дасягненні слабавідушчых спартсменаў–маладзечанцаў мы не аднойчы пісалі.

Людзі на БелТІЗе затрымліваюцца і пасля пенсійнага ўзросту. На сёння працуе 87 пенсіянераў–інвалідаў.

– Не было б такога прадпрыемства, прыйшлося б прасіць па электрацягніках міласціну. Бо каму мы патрэбныя? – пачуў у адным з вытворчых участкаў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



Дырэктар ВВА БелТІЗ Сяргей Мінкоўскі.



Намеснік дырэктара Канстанцін Майсевіч і начальнік вытворчага аддзела Мікалай Капусцін.



На ўчастку зборкі нізкавольтавай апаратуры. На першым плане майстар Мікалай Несцер.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Валожыне пагуляў пярун

**М. Валожын, Віленскай губ., Ошмянскага пав.**

Сёлетнее лета ня скупіцца бурамі і грымотамі, каторые нам робяць надта вялікіе шкоды. Не забыліся мы ешчэ той навальніцы, каторая была 11–го юня, аж тут як раз цераз месяц 11–го ліпня ў суботу пад вечар зноў пранеслася страшэнная хмара з маланкамі і пярунамі, каторые білі раз–по–раз не перастаючы; людзі перапалохаліся да поўсьмерці і думалі, што ўжо настаў канец сьвета. Адзин пярун ударыў у Валожынскую каталіцкую капліцу і па дроце ад званка ўляцеў у сярэдзіну, дзе выдзер кусок сцяны і пайшоў у зямлю. Другі – ударыў у рабіноў дом, праз комін упаў у хату, разсадзіў там печ і, разбіўшы вакно, вылецеў на двор нікога не зачапіўшы. Трэці пярун спаліў у вёсцы Літве гаспадара Антона Карташэвіча, а ў вёсках Бітуці і Пяшкуры забіў па каню.

Каля Лебедзева пярун спаліў два засценкі; у фальварку Батурах у гумне пасэсара Вайсборда пярун аглушыў трох мужчын і адну бабу; мужчыны ў скорасьці адышлі, а баба ешчэ хварэе: ёй заняло мову.

Каля нас цяпер бадзяюцца шалёныя сабакі. Недаўна гэтакі сабака ў лесьнічаго п. Праневіча пакусаў усе сьвінні і нема ведома, ці яны не пашалеюць, хоць у нас і дае ад гэтаго такіе зёлкі Грышка М., але яны не кожын раз памагаюць. Трэба бадзячых сабак сьцерагчыся і зьніштажаць, бо могуць нарабіць шмат вады.

Стары Улас.

Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №30 ад 23 ліпня 1909 г.

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

 



КАМПЕНСАЦЫІ

# Ахвяры Халакоста атрымаюць кампенсацыю

*Швейцарскія банкі згадзіліся выплаціць кампенсацыю ў суме 1,25 мільярда долараў ахвярам нацысцкага прыгнёту і іх спадчыннікам у парадку задавальнення юрыдычных прэтэнзій у адносінах дзейнасці швейцарскіх банкаў, фірм і швейцарскага ўрада (далей "Швейцарскія юрыдычныя асобы") у гады Другой сусветнай вайны.*

29 лістапада 1999 года ў акруговым судзе Усходняй акругі г. Нью–Ёрка адбудзецца слуханне аб канчатковым зацвярджэнні Пагаднення, што мае быць.

Згодна з Пагадненнем, кампенсацыя будзе выплачвацца асобам (або іх спадчыннікам), што з'яўляюцца "ахвярамі ці аб'ектамі нацысцкага прыгнёту", якія дзеляцца на пяць катэгорый. Да першых чатырох катэгорый адносяцца асобы, фірмы або групы, якія сталі ахвярамі ці аб'ектамі прыгнёту нацысцкага рэжыму або яго агентаў з прычыны таго, што яны былі або лічыліся яўрэямі, цыганамі, гомасексуалістамі, членамі груп "Свидетели Иеговы", фізічна або разумова адсталымі людзьмі, інвалідамі, якія мелі ўклады ў швейцарскіх банках ці іншых ашчадных установах у перыяд да 9 мая 1945 года, былі занятыя на прымусовых работах, што выконваліся для арганізацый, якія маглі ўкладаць атрыманыя даходы ў швейцарскія банкі. Да пятай катэгорыі адносяцца любыя асобы (ці іх спадчыннікі), якія выкарыстоўваліся на прымусовых работах на любых аб'ектах, незалежна ад іх месцазнаходжання, якія належалі або знаходзіліся пад кантролем любой Швейцарскай юрыдычнай асобы.

Ахвяры Халакоста і іх спадчыннікі могуць атрымаць інфармацыю пра свае правы па гэтым Пагадненні шляхам атрымання Паштовага паведамлення, які ўключае юрыдычнае паведамленне і першапачатковую іскавую анкету, калі напішуць па адрасе: Расія, 101000 Масква, галоўпаштамт, а/с 2049, Справа аб маёмасці ахвяраў Халакоста. Вусную інфармацыю можна атрымаць, калі патэлефанаваць бясплатна па тэлефоне 8(гудок) 10-800-114 (гудок) 626 – для Магілёва і Гомеля, 8(гудок) 800-114 (гудок) 626 – для Віцебска, Гродна і Брэста або наведаць старонку ў Imternet па адрасе: http://www.swissbanklaims.com

КОНКУРС

# Беларуская асацыяцыя журналістаў

***нагадвае аб правядзенні конкурсу сярод беларускіх журналістаў. На конкурс дапускаюцца матэрыялы, апублікаваныя ў перыяд з 1 студзеня да 1 жніўня 1999 года. Матэрыялы прымаюцца да 10 жніўня 1999 года.***

**Наступныя катэгорыі конкурсу:**

1. Лепшы матэрыял–расследаванне – за лепшую работу па расследаванні падзеі або інцыдэнту, выкарыстоўваючы шматлікія крыніцы і інфармацыю, атрыманую пры дапамозе асаблівай стараннасці і творчых знаходак.

2. Лепшы інфармацыйны матэрыял – за глыбокае і поўнае асвятленне падзеі ў сціснутыя тэрміны.

3. Лепшы аналітычны матэрыял – за лепшае тлумачэнне складанай праблемы, выкарыстоўваючы канкрэтныя факты, правядзенне даследчай работы і яснае ўяўленне праблемы.

*Матэрыялы на конкурс высылайце па адрасе: 220030, г. Мінск, пл. Свабоды 17, пакой 304.*

Матэрыялы павінны суправаджацца пісьмом, у якім трэба ўказаць: дату публікацыі, цяжкасці, якія былі паспахова пераадоленыя журналістам у час напісання матэрыялу, вынік – што змянілася пасля публікацыі, кантактны тэлефон, месца работы, пасаду аўтара публікацыі.

Конкурсныя матэрыялы будуць аддадзеныя на разгляд міжнароднага журы. Пераможцы будуць узнагароджаныя ганаровымі дыпломамі і каштоўнымі прызамі.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 14.07 | 21.07 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 550 | 510 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | – |
| Сасіскі «Мінскія» | 1 кг | 650 | 660 |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | – |
| Рыс | 1 кг | 215 | 220 |
| Цукар | 1 кг | 150 | 148 |
| Грэчка | 1 кг | 275 | 290 |
| Алей | 1 л | 380 | 380 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 160 | 165 |
| Маянэз | 250 г | 72 | 70 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 470 | 470 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 140 | 140 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 120 | 140 |
| Лімоны | 1 кг | 500 | 580 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 150 | – |
| Масла | 1 кг | 500 | – |
| Тварог | 1 кг | 150 | – |
| Малако | 1,5 л | 60 | – |
| Бульба маладая | 1 кг | 120-150 | 120 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 180 | 200 |

## На рынку ёсць ягады і іншае...

парэчкі чорныя ................ 5л ................ 2000 тыс. руб.
парэчкі чырвоныя ............ 5л ................ 450
вішня ............................. 5л ................ 2300
маліна ............................ 5л ................ 2300
агрэст ............................ 5л ................ 1700
кавун ............................. 1кг ............... 150
морква ........................... пучок ........... 100
агуркі ............................ 1 кг .............. 50–70
памідоры ........................ 1 кг .............. 220



*Хто спрытнейшы? Або транспартныя «канкурэнты» па–маладзечанску.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ПАСАДЫ

# Рэкецірам будзе нясоладка

МАЛАДЗЕЧНА. У міжрайаддзеле камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС Беларусі змяніўся начальнік. Замест **Віталя Дубовіка**, які пайшоў на павышэнне (стаў намеснікам начальніка ўпраўлення па Мінскай вобласці) барацьбу з рэгіянальным рэкетам узначаліў **Вацлаў Дошчачка.**

Як сцвярджаюць у міжрайаддзеле, напрамкі работы застануцца тыя ж.

*Аддзел інфармацыі.*

## Кутно ў Радашковічах

РАДАШКОВІЧЫ. У панядзелак на "Белмастацкераміцы" адбылася сустрэча польскай дэлегацыі з павета Кутно (прадпрымальнікі, вытворцы і мясцовыя ўлады) з маладзечанцамі. Ад гаспадароў былі намеснік старшыні райвыканкома **Вітольд Пархімовіч** і прадстаўнікі буйных прадпрыемстваў раёна.

Бакі расказалі, што могуць прадаць і што зацікаўленыя купіць. Палякі наведалі Аляхновіцкую птушкафабрыку і пасёлак Чысць. Павет Кутно размешчаны ў цэнтры Польшчы на дарозе з Варшавы ў Познань і ў многім падобны на Маладзечаншчыну.

*Мікола ЛІННІК.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Улетку падлеткі гуляюць самі па сабе

МАЛАДЗЕЧНА. Група падлеткаў культурную праграму адпачынку праводзіла на вадаёме ў Селівонаўцы. Прыехаўшы туды на электрацягніку, на пероне прыпыначнага пункта прынялі за выклік не вельмі ветлівы адказ аднаго з пасажыраў і ўпяцёх збілі яго. Адзін з групы, з гіпсам на назе, не змог утрымацца ад спакусы прадэманстраваць атрыманыя навыкі кікбаксёра. Невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б не ўмяшаліся мясцовыя жыхары і не разагналі "дзікую зграю", а чуліся ўжо воклічы "Дабівай!", і ў ход пайшлі камяні з насыпу. Напэўна, многім даваліся назіраць нешта падобнае, што асабліва часта адбываецца ў летні час у месцах адпачынку, на дыскатэках.

Летні перыяд, наогул, адзін з самых напружаных перыядаў работы органаў унутраных спраў. У выхадны дні тэлефон дзяжурнай часці, часам, не змаўкае ні на хвіліну. Што тычыцца чыгункі, то ідуць паведамленні ад машыністаў цягнікоў, дзяжурных па станцыях пра налажэнні пабочных прадметаў на рэйкі, пабітае шкло ў цягніках, хуліганскія дзеянні і, што самае страшнае, пра трагічныя выпадкі гібелі людзей на аб'ектах транспарту.

Асноўная маса згаданых правапарушэнняў здзяйсняецца падлеткамі, таму што лета – пара, калі яны прадстаўлены самім сабе. Пры разборы па такіх правапарушэннях бацькі звычайна здзіўлены тым, што іх дзіця знаходзілася на чыгунцы. Адпускаючы ў паход ці на вадаём, рэдка хто з іх тлумачыць сваім дзецям, як патрэбна паводзіць сябе на чыгуначным транспарце. Не адзінкавыя выпадкі знаходжання ў непаўналетніх спіртнога, якое яны набываюць за грошы, дадзеныя бацькамі, або бяруць яго дома. У бягучым годзе ўжо не адзін літр самагону адабраны ў непаўналетніх на станцыях і прыпыначных пунктах, самы буйны факт – 13 літраў. Ужыванне спіртнога непаўналетнімі – галоўная прычына правапарушэнняў, якія часам перарастаюць у злачынствы.

Летнія канікулы працягваюцца, падлеткі больш за месяц вольны час будуць бавіць па-за межамі дома. Лепш гэтыя дні не азмрачаць разборамі з органамі ўнутраных спраў.

*Вадзім КУЛЯШЭЎСКІ.*

# Забойца закурыў перад смерцю

ВІЛЕЙКА. Жыхар вёскі Зенанова Васіль Д. вырашыў разабрацца з маці сваёй сужыцелькі (57–гадовая мінчанка Марыя Ш. гасцявала ў дачы на Вілейшчыне).

Васіль, які працаваў палявodам у калгасе "Рассвет", у адну з начэй пільнаваў з паляўнічай стрэльбай "крыўдзіцельніцу" ў двары яе дачы ў вёсцы Слабада. Перад гэтым 44–гадовы палявод пакінуў дома развітальную запіску: "...не осуждайте, не поминайте лихом". Зарадзіў аднаствольку карцеччу (частковa, самаробнай).

Каля 5 раніцы, калі дачка спала, а яе маці паднялася дагледзаць па гаспадарцы, прагучала 2 стрэлы. Жанчына загінула на месцы. Сам забойца прыбег у сенахcauseовішча калгаса.

Сенасховішча плошчай 750 квадратных метраў з 15 тонамі сена загарэлася. Побач знаходзілася яшчэ адно, са 100 тонамі. Там жа – сховішчы мукі, камбікармоў. Асноўную сельскагаспадарчую маёмасць пажарныя выратавалі. Згарэла адно сенасховішча і 15 тон сена. На месцы пажару знойдзеныя астанкі чалавека, побач – жалезныя часткі стрэльбы.

Як паведамілі ў маладзечанскай судова–медыцынскай экспертызе, ад чалавека застаўся агарачак. Поўнасцю згарэлі канечнасці, галава, частка тулава. У такой сітуацыі, звычайна, складана ідэнтыфікаваць труп. Судмедэксперт Аляксандр Квяткоўскі і вілейская міліцыя высветлілі, што ў чэрвені, падчас сваркі паміж забойцам і забітай, жанчына штурхнула палявода на карыта, і той зламаў сабе рабро. Літаральна на кавалачках былі разабраныя астанкі, і знойдзена рабро з шыпам на касцявым мазалі.

А ў паліклініцы знойдзены рэнтгенаўскі здымак Васіля Д. На ім добра праглядваўся шып. Судовыя медыкі лічаць, што такі факт мае права быць упісаным у іх спецыфічныя дапаможнікі.

Не ўдалося высветліць, якім чынам палявод зведў рахункі з жыццём: мала што ад яго засталося. І можа, апошняя цыгарэта перад самазабойствам стала прычынай пажару.

*Алена ІРЫСАВА, Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

НА КАРЦЕ НАШАЙ ЗЯМЛІ

# Пра назвы калгасаў

***Надзіва небагатая фантазія была ў арганізатараў і заснавальнікаў добраахвотных працоўных таварыстваў, якія назвалі калгасамі. Нядаўна мне ў рукі трапіў тэлефонны каталог "Бізнес—Беларусь" на 1999 год, і, разгарнуўшы яго на старонцы "Калгасы", я падзівіўся велізарнай колькасці аднолькавых назваў.***

На першым па колькасці месцы знаходзяцца калгасы, назва якіх звязаная з Леніным. Назвы гэтых калгасаў я падзяліў на 5 груп: "Шлях Леніна" – 20, "Ленінскі (сцяг, заклік, шлях)" – 33, "Памяці Леніна (Ільіча)" – 6, імя Леніна (Ільіча) – 64, "Запаветы Леніна (Ільіча)" – 17. Агульная колькасць – 140. На другім месцы ўсе калгасы, назвы якіх складаюцца з двух слоў і паходзяцца са слова "Чырвоны": Кастрычнік, Сцяг, Маяк, Партызан і г. д. – 82. На трэцім месцы – "Рассвет" – 47. Чацвертае падзялілі калгасы "Зара" і "Бальшавік" ("Камунар", "Камуніст") – па 41. На пятым месцы "Перамога" – 39, шостым – калгас 1 Мая – 35. Сёмае месца падзялілі калгасы "Радзіма" (сярод іх, дарэчы, дзве Дзяржынскага і дзве Коласа) і "Партз'езд" (з'езд КПСС) – па 34. Далей месцы размеркаваліся такім чынам: "Кастрычнік" – 32, "Беларусь" – 31, "Праўда", "Прагрэс", "Дружба" – па 30, "Іскра" – 28, "Савецкая Беларусія" – 26, імя Дзяржынскага – 25, імя Суворава – 21 (да прыкладу, калгас імя Калініна ўсяго адзін, імя Коласа – 3, імя Купалы – 5) і на пятнаццатым месцы калгасы 10, 12, 40 і 50 гадоў Кастрычніка – 20.

Здзіўляе не толькі адсутнасць фантазіі, але яшчэ і тое, што назвы да гэтага часу не змяніліся. Дарэчы, сярод назваў сапраўдных гістарычных і геаграфічных штампаў значна менш. Я знайшоў толькі дзве "Радзімы", 4 "Іскры", 5 калгасаў "Зара", 2 "Камуністы" і 2 "Запаветы Леніна".

*Зміцер ЛУКАШУК, Маладзечна.*

***На Маладзечаншчыне сітуацыя ў канцы 80—х—пачатку 90—х гадоў складвалася больш цікава.***

Найперш тут вырашылі развітацца са "светлым мінулым" гарадзілаўцы – і калгас імя Жданава стаў калгасам "Гарадзілава". Потым маркаўчане вярнулі сабе назву родняй вёскі, пазбавіўшыся старой назвы (калгас імя Леніна). Калгас імя Калініна стаў калгасам "Гарадок", калгас імя Кірава, ціхенька далучыўшыся да мясцовай сельгасхіміі, стаў вытворчым участкам "Селецы", а "Шлях Леніна" падчас першага з'езда беларусаў свету "Бацькаўшчына" падышоў пад згоду гэтага ганаровага аб'яднання і, адпаведна, памяняў назву. Тым часам калгас "50–годдзе Кастрычніка" не адзначыў юбілею гэтай даты і неўпрыкмет стаў калектыўнай гаспадаркай "Палачаны". Саўгас імя Прытыцкага пры рэарганізацыі ў калгас змяніў назву і стаў калгасам "Маладзечанскі".

І толькі калгас імя Дзяржынскага захоўвае ганаровую назву першага "чэкіста" і "лепшага сябра дзяцей". Астатнія гаспадаркі носяць досыць нейтральныя, але характэрныя назвы: "Светлы шлях", "Кастрычнік", "Прагрэс", "Усход"...

"Імяннымі" засталіся калгасы імя Янкі Купалы і імя легендарнага лётчыка М. Гастэлы. Ну, а "Краснае" засвеўды было "Красным", а "Дубравы" (нават пасля далучэння да Аляхновіцкай птушкафабрыкі) так і засталіся вытворчым участкам пад гэтай назвай.

*В. М.*



 

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка



**Па гарызанталях:** 7. Часовае збудаванне з дошак. 8. Загорнутыя рэчы. 9. Дзяржаўны збор. 11. Абломак, асколак. 12. Грошы як подкуп. 13. Высакародны чалавек. 15. Грашовая адзінка Германіі. 16. Каштоўны камень. 17. Падарунак. 20. Залежны чалавек. 21. Аглушальны ўдар грому. 24. Група цыганскіх сем'яў. 26. Парыў, гарачнасць. 27. Прыемны пах. 29. Падлік даходаў і расходаў. 30. Выяўленчае мастацтва. 31. Здарэнне. 32. Прыхільнік радыкалізму.

**Па вертыкалях:** 1. Канікулы. 2. Размнажальны апарат. 3. Член царкоўнай абшчыны. 4. Радыёлакатар. 5. Асоба, якой даручана назіранне. 6. Загарадка. 10. Пакаёвая печ. 11. Удушлівы газ. 14. Труба для ўзмацнення гуку. 15. Аборка, тасьма. 18. Падвяленая трава. 19. Улюбёнец уплывовай асобы. 20. Грабёж. 22. Суровая заўвага. 23. Ачышчаны цукар. 25. Правая ці левая частка цела. 27. Сярэдневяковы землеўладальнік. 28. Майстар, які шые раменную вупраж.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №29:*

**Па гарызанталях:** 3. Атабаеў. 5. Дакар. 9. Самара. 10. Ананас. 11. Канава. 13. Абакан. 14. Камар. 15. Граната.

**Па вертыкалях:** 1. Салака. 2. Наваха. 4. Атакама. 6. Алабама. 7. Шагал. 8. Набат. 12. Ачакаў. 13. Алатау.

ІМЯ НА ЭСТРАДЗЕ

# Я ведаю, што такое любіць

***Мікалай Трубач – адзін з найбольш вядомых спевакоў расійскай эстрады. Гэта не яго ўласнае прозвішча, але больш дакладны псеўданім прыдумаць цяжка. Чым жыве гэты чалавек? На эстрадзе яго відаць, а як са «звычайным» жыццём?***

**– Мікалай, у якім узросце трэба пачынаць вучыцца іграць на гітары мастацтваў, для таго, каб стаць зоркай?**

– Проста трэба жыць сваёй мэтай. Узрост тут ні пры чым. Ні адно дзіця ці яго бацькі не могуць адгадаць, хто з яго атрымаецца – голуб ці арол. Проста аднойчы, дасягнуўшы вызначанай ступені, чалавек раптам разумее, што яму нечага не хапае.

**– На адной з прэс–канферэнцый у Валерыя Меладзе спыталіся, як ён ставіцца да таго, што на эстрадзе ёсць падобны на яго Мікалай Трубач. Як ты адчуваеш сябе, калі на эстрадзе ёсць спявак Валерый Меладзе?**

– Я лічу, што мы не вельмі падобныя. Мы даўно адзін аднаго ведаем: прыехалі ў Маскву з аднаго горада Нікалаева, з адной студыі "Дыялог", з адной групы – групы "Дыялог". Таму, можа быць, нейкія мае работы і былі падобныя на песні Валеры, але мой трэці альбом адрозніваецца ў корані ад яго. А тое, што мяне параўноўваюць з Меладзе, у нейкім сэнсе прыемна, таму што ён сапраўды адзін з лепшых спевакоў. На маё "Я" гэта параўнанне не цісне. У нас розны імідж.

**– Вы добра выглядаеце разам з Барысам Маісеевым. Як узнік гэты тандэм?**

– Барыс звярнуўся да мяне з прапановай запісаць песню для яго спектакля. Не схаваю, я спачатку спалохаўся гэтага. А калі мае прыхільнікі вырашаць, што я мужчына нетрадыцыйнай арыентацыі? На шчасце, гэтага не атрымалася. Я многаму навучыўся у Барыса як артыста. Ён вялікі працаўнік. Гэта прэса зрабіла з яго скандальную асобу. Вось цяпер мы збіраемся запісаць дуэт з Ладай Дэнс. Але гэта – звычайная форма работы, таму ніхто, я упэўнены, не звярне сюды сваю «ўвагу».

*Заканчэнне будзе.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Не згубілі, а ў магазін хадзілі

Быў сведкам такой падзеі, што адбылася ў невялічкім магазіне ў пасляваенным Мядзеле. Зайшла старэнькая бабулька і стала позіркам акідваць усе закуткі магазіна.

– Што шукаеце, бабуля?

– Я ў вас спраўляла пакупку, мо, тут згубіла 20 капеек, развязваючы хусцінку.

– Бабуля, вы згубілі не 20 капеек, а цэлых 5 рублёў. Вазьміце свае грошы і больш не губляйце.

– Сынок, я такіх грошай не мела, чужых не хачу.

Загадчык магазіна пачаў пераконваць старую, што гэтыя 5 рублёў – яе грошы, яны былі загорнутыя ў хусцінку, потым вываліліся на падлогу. Угаворвалі старую і некалькі пакупнікоў (прадавец ім падміргнуў, каб дапамагалі). Сілай уклалі пяцірублёўку ў рукі вясковай жанчыне.

– Гэта нейкае цуда адбываецца. Няўжо я не заўважыла дома ў хусцінцы такую суму?

Паверыла старая і пайшла з магазіна. А магазіншчык свой учынак так патлумачыў. Хтосьці іншы згубіў яшчэ раніцой пяць рублёў. Не аб'яўляючы суму, гандлёвы работнік вывесіў на відным месцы аб'яву. І пасля пачалося: пайшлі амаль адзін за адным месточкоўцы аб'яўляць пра згубленыя грошы. Ні сума, ні колькасць купюр не супадала. Хто згубіў, не збяднее, а старой грошы спатрэбяцца. Хадзілі сюды за згубай маладыя ды здаровыя.

Пасля такога тлумачэння загадчык магазіна зняў аб'яву.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

ЦІКАВАЕ ПОБАЧ

# Палярны «пажар»

Нейкі час палярнае ззянне чырвонага колеру прымалі за зарыва пажару ў паўночнай частцы далягляду, таму пажарныя каманды выязджалі «на пажар». Такое мела месца ў некалькіх паўднёваеўрапейскіх гарадах 25 студзеня 1938 г.

Вока чалавека лепей адрознівае асаблівасці, дэталі назіраемых прадметаў у параўнанні з фатаграфіяй і тэлевізійным адлюстраваннем. Вокам можна ўбачыць тое, што недаступна пакуль ні фатаграфіі, ні тэлевізійнай выяве.

Як сцвярджаюць касманаўты, візуальная карціна зямной паверхні з космаса істотна адрозніваюцца ад фатаграфічных і тэлевізійных адлюстраванняў, перш за ўсё, сваёй выразнасцю. На фотаздымках Зямлі воблачных покрываў заўсёды прысутнічае вуаль ці «сетачка», што тлумачыцца засветкай жорсткім выпраменьваннем, якое існуе ў космасе. На тэлевізійнае адлюстраванне аслабляючы ўплыў аказвае, у прыватнасці, атмасфера, праз якую яно павінна прайсці.

Касманаўты лёгка апазнавалі матэрыкі і акеаны па іх характэрных абрысах. На акіянах бачылі рух хваляў, зыб, у пустынях - пясчаныя дзюны. Улоўлівалі адрозненні ў празрыстасці атмасферы над асобнымі раёнамі зямной паверхні, формы аблокаў, цыклоны, навальніцы і многія іншыя асаблівасці сушы, акеана і атмасферы. З вышыні палёту станцыі 250-300 км пры назіранні ўніз добра распазнавальныя аб'екты памерам 1-2 км, а падчас і менш за 500 м.

...згодна з дадзенымі чэшскага астранома З. Цэплехі, балід (яркі метэор), які мае бляск ярчэйшы, чым поўня, у якім-небудзь пункце ноччу можа назірацца ў сярэднім 1 раз у 2-3 гады, а выпадзенне ў дадзеным месцы ў начны час метэарыта масай 1 кг і больш можна чакаць кожныя 10-15 год.

...выпадковыя метэорныя ўспышкі выкарыстоўваюцца ў якасці каналаў радыёсувязі на звышвысокіх частотах, напрыклад, так званая «метэорная лінія сувязі», што працуе на хвалі 8 м, здольная забяспечыць бесперапынную работу некалькіх тэлетайпаў.

*Іван СЯРГЕЙ.*

НАШЫЯ ІНТЭРВ'Ю

# Гэты чалавек – адзіны ў Маладзечне

***Пачатак інтэрв''ю з адзіным у Маладзечне астраномам–аматарам Іванам Сяргеем – у папярэднім нумары.***

**– Дзе ты праводзіш свае назіранні?**

– Пераменныя зоркі назіраю тут, а за каметамі і метэорамі выязджаю назіраць у вёску, таму што ў горадзе вялікая засветка.

**– Колькі каштуе добры тэлескоп?**

– Будзе лепей і больш рэальна збіраць самому, ну, а каштаваць ён будзе як новая іншамарка.

**– Назіраннямі можна дамагацца камерцыйнай мэты?**

– У свеце існуе фонд Вільсена, і адкрыццё каметы ацэньваецца ў 20000 долараў. Першае месца займае аўстраліец Уільям Брэдфілд. У яго больш за 15 адкрытых камет. Ёсць у гэтым і элемент шанцавання. Што такое Аўстралія на Паўднёвае паўшар'е, а што такое Паўночная Амерыка, Еўропа, Японія і былы Саюз на Паўночнае. Усе назіранні засяроджаныя тут, а значыць, вялікая какурэнцыя.

**– А колькі каштуе адкрыць зорку?**

– Пакуль я ведаю, што плацяць толькі за каметы. Што такое адкрыць зорку? Гэта пякельная праца. На нябачнай дагэтуль зорцы адбываецца выбуховы працэс, абалонка рашыраецца – і мы бачым новую, але не абавязкова яркую, зорку. Каб гэта заўважыць, трэба поўнасцю патруляваць неба. Ёсць такі прыбор – блінккампаратар, які аблягчае гэтую работу. Кладзецца стандартны кадр якога–небудзь участка і толькі што зняты кадр гэтага ж участка. Пры іх перамяшчэнні атрымліваецца стэрэаэфект. Пастаянныя зоркі застануцца на месцы, а калі з'явіцца новы аб'ект, убачым працэс руху, мігцення. Зразумела, можна і візуальна назіраць, але трэба вялікі энтузіязм, цярплівасць, жаданне і поспех. Гэта вельмі, вельмі цяжка.

**– Ёсць вялікая колькасць гараскопаў, у іх змяшчаюцца процілеглыя прагнозы.**

– Так. Верагоднасць памылкі заўсёды ёсць у любым прадказанні. Хаця становішча планет вызначанае, але сама методыка апрацоўкі розная. Адныя разлічваюць так, іншыя – па–іншым. Узяць вядомага Глобу. Па радыё пачуў, як ён расказваў, што ў сузор'і Льва ёсць самая яркая зорка Рыгель, і Сонца з'яўляецца яе спадарожнікам. Гэтым ён прадэманстраваў элементарнае няведанне астраноміі. Як Сонца можа круціцца вакол гэтай зоркі, калі на шляху паміж імі вялікая колькасць іншых зорак?

**– А як, Іван, ты ставішся да астралогіі?**

– Я лічу астралогію лжэнавукай, гэта сродак атрымліваць грошы, і разлічаная яна на неадукаванага чалавека. Хаця сябрам гараскопы складаў, але навуковага інтарэсу для мяне ў гэтым няма. Многія робяць памылку, калі думаюць, што Нострадамус менавіта па зорках прадказваў будучае. Гэта не так. У яго было дзве існасці ў адным: прарок – гэта першая, астролаг – другая. Ён бачыў будучае, закадзіраваў яго і прадказаў, што ў 1997 годзе ў Расіі яго запісы расшыфруюць.

**– Іх расшыфравалі?**

– Яго закадзіраваныя цэнтурыі (чатырохрадкоўі) матэматычна прааналізавалі, літарную інфармацыю пераклалі на лічбы і знайшлі код, у аснове якога ляжаць чатыры адзінкі. Цяпер насцярожвае тое, што даты абрываюцца, і пра будучае варта прызадумацца.

**– Надыходзіць канец свету? Трэцяя сусветная вайна? У Зямлю ўрэжацца гіганцкі астэроід?**

– Гэтага выключаць нельга. Ёсць прагнозы, што нешта падобнае можа адбыцца ў бліжэйшыя гады. Па астранамічных мерках, арбіты некаторых астэроідаў праходзяць вельмі блізка ад зямлі, і ёсць верагоднасць, што адзін з іх можа не прамахнуцца. Лепей не нацэльваць ракеты адзін на аднаго, а абараняць планету ад "гасцей" з космасу.

**– Што–небудзь больш жыццярадаснае намячаецца ў бліжэйшы час?**

– Па прагнозах, 16–17 лістапада каля апоўначы ў паўночна–усходняй вобласці неба пройдзе вялікі зорны дождж. Некалькі тысяч метэораў у хвіліну. Магчыма, убачым з'яву, калі ад метэораў будзе светла, як у снежную ноч.

**– Акрамя назіранняў, ёсць у цябе іншыя захапленні?**

– Люблю глядзець навукова–папулярныя фільмы, захапляюся інфарматыкай, цікавіць інструментальная, электронная музыка.

**– У цябе ёсць мара?**

– Пабудаваць абсерваторыю, аснасціць яе апаратурай, стварыць сваю арганізацыю. Займацца тым, да чаго душа ляжыць. Злётаць у космас, каб паглядзець на Зямлю зверху. Калі нехта з чытачоў зацікавіцца астранамічнымі даследаваннямі, якія маюць навуковае значэнне, – мой тэлефон у Маладзечне 52042.

*Павел ІВАНОЎ,*
*Аляксандр ГУЛЕЦКІ.*

ГАРАСКОП 26 ЛІПЕНЯ – 1 ЖНІЎНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Авантурныя планы на прадмет хуткага ўзбагачэння могуць паступіць ад сяброў. Не спакушайцеся і ўтрымайце сяброў ад такога кроку.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Паказчыкі гэтых дзён добрыя для буйных спраў, рэалізацыі творчых праектаў. Ёсць сэнс не быць на першым плане.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Тыдзень адкрые шырокія магчымасці, забяспечыўшы прыліў творчай энергіі. Найбольш выніковыя будуць сумесныя акцыі з дзелавымі партнёрамі.

**РАК (22.06–23.07)**
Здароўе, работа, адносіны з калегамі і начальствам вас толькі ўзрадуюць, дзякуючы чаму вы зможаце вырашыць пытанні, якія раней натыкаліся на неадольную перашкоду.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Бескарыслівая дапамога іншым шматразова вернецца да вас.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Ліхарадкавасці ў рабоце не пазбегнуць, аднак агульны вынік гэтага перыяду павінен скласціся на вашу карысць. На прафесійнай глебе магчымыя нечаканыя канфлікты.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Вы зможаце праявіць лепшыя якасці, аказацца пасрэднікам паміж бакамі, што змагаюцца паміж сабой.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Моцная энергетычная падпітка дазволіць актыўна дзейнічаць у матэрыяльнай сферы.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добры настрой можа азмрочыць толькі становішча на рабоце. У аўторак, сераду, чацвер і начальства, і супрацоўнікі могуць паспрабаваць узваліць на вас шмат спраў.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Тайныя спосабы ўздзеяння на навакольных стануць вам вядомыя. Пастарайцеся гэта выкарыстаць не на шкоду іншым.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Дзякуючы кантактам са сваякамі і выпадковымі знаёмымі, вы можаце атрымаць прэстыжную прапанову.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Узнікнуць такія абставіны, якія пры невялікіх намаганнях з вашага боку дазволяць вырвацца з палону матэрыяльных праблем.

